№7(16)
2000г.
жнівень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

*Да 900 - годдзя Барысава*

**У распараджэнні рэдакцыі нашай газеты маюцца сенсацыйныя, невядомыя раней звесткі, якія датычацца заснавання ў 1102 годзе Барысава. Яны будуць абвешчаны ў адным з сёлетніх нумароў нашага выдання.**

*Маёнтак каля Зембіна - адзін з найстаражытных і найбольш адметных на Барысаўшчыне. Ён вядомы з XVI стагоддзя. У 1926 годзе яго парк быў узяты пад ахову дзяржавы... Зараз ад парка і маёнтка наогул засталіся толькі нязначныя рэшткі.*

*(Пра гісторыю Зембіна і яго культурныя традыцыі чытайце на стар. 4-5)*















## 900 - годдзе Барысава: калі яго святкаваць?

Праз год наш горад чакае вялікі юбілей. Каб ён стаў сапраўды святам для ўсіх барысаўцаў, трэба зараз думаць аб яго правядзенні. На першы погляд, дробным, але на самой справе важным з'яўляецца пытанне, у які дзень яго праводзіць. Безумоўна, гэта дата павінна мець гістарычныя карані.

Вайсковыя паходы ў XII стагоддзі рабілі ў перыяд з вясны па восень. Найбольш прыдатным для іх было лета. Таму ў гэты час, хутчэй за ўсё, быў заснаваны Барысаў і ў яго межах варта праводзіць юбілей. Да таго ж сама прырода найбольш спрыяльная летам для правядзення святаў.

Апошнім часам дзень горада ў Барысаве адзначаўся 1 ліпеня, у дзень яго вызвалення падчас другой сусветнай вайны. Гэта вельмі добра, што ў нас не забыты яе героі і ахвяры. Але, па-першае, праз Барысаў прайшло шмат войнаў. Да таго ж апошняя з іх не самая трагічная. Так, напрыклад, наступствы вайны сярэдзіны XVII стагоддзя для Барысава былі значна больш жахлівымі. Таму дата яго вызвалення ў 1662 годзе - 9 ліпеня варта не меншай увагі, чым 1 ліпеня 1944 года. Па-другое, узгадванне вайны - гэта падстава болей для смутку па яе ахвярах, чым для весялосці. Калі свята праводзіць шчыра, а не фармальна, самі атмасферы на юбілеі горада і на святкаванні яго вызвалення павінны быць зусім рознымі. Таму 1 ліпеня, як і 9 ліпеня не лепшыя даты для святкавання юбілея горада.

У гісторыі Барысава былі і іншыя даты, якія звязаны з яго развіццём і нясуць у сабе выключна станоўчы сэнс. Гэта - наданне гораду прывілеяў 10 жніўня 1563 года і 14 чэрвеня 1772 года. У 1563 годзе правы, нададзеныя гораду, былі абмежаванымі. Аднак у 1792 годзе Барысаву было дано магдэбургскае права ў поўным памеры. Адначасна быў зацверджаны і герб горада.

Такім чынам, дата, якая найбольш адпавядае зместу святкавання 900 - годдзя Барысава і адначасова 210 - годдзя надання яму права самакіравання і герба, - 14 чэрвеня. 10 жніўня 2003 года будзе мець месца 450 - годдзе першага надання Барысаву магдэбургскага права, што таксама варта нашай увагі.

***В.Стэфановіч***

## Чыгунка нідзе не страціць

Аб'явы на акенцах прыгарадных чыгуначных кас з раздражняючым пасажыраў паведамленнем аб тым, што з 10 ліпеня аплата за праезд дзяцей пасля 10-ці гадовага ўзросту ўстанаўліваецца ў памеры поўнага кошту білетаў, сталі выразным адлюстраваннем усіх недарэчнасцей зусім ненадакучлівага сервісу нашай чыгункі.

Логіка тут, як гаворыцца, жалезная. Менавіта ў ліпені-жніўні паедуць у гарады шматлікія абітурыенты. А з горадоў прыйдзецца самы пік патоку дзяцей і падлеткаў у вёскі да бабуль. "Дык чаму ж не патрэсці пад гэты час кішэні бацькоў!" - вырашылі чыгуначныя начальнікі.

Не сакрэт, што ў электрычках едуць бедныя людзі і іх дзеці. Дык чаму ж было б не павярнуць "жалезную" логіку ведамства хоць крыху ў бок інтарэсаў пасажыра і вытрымліваць хаця б графік руху прыгарадных цягнікоў? Ды дзе там! Людзі гадзінамі млеюць на станцыях і прыпынках з-за адмены рэйсаў, пазначаных у раскладзе руху электрацягнікоў. І нікога не хвалюе тое, што яны пасля будуць траціць прытомнасць ад спёкі ў перапоўненых вагонах.

***А.Турко***

## Навіны адукацыі

*Напрыканцы года гарадскім аддзелам адукацыі падведзены вынікі па многіх паказчыках працы калектываў школ, вызначаны задачы на будучыню.*

У першую чаргу гэта датычыцца навукова- даследчай працы педагогаў і вучняў. Адзначана, што сёлета сто пяць вучняў абаранілі восемдзесят дзве творчыя працы па дванаццаці вучэбных прадметах. А на пятай Рэспубліканскай канферэнцыі даследчыкаў дваццаць вучняў з Барысава адзначаны дыпломамі.

Вызначаны школы, у якіх найлепш пастаўлена турыстычная праца. Імі сталі сярэднія школы нумар 20, 18, 8.

Названы вынікі гарадской спартакіяды школьнікаў. Яна праводзілася па трынаццаці відах спорту і ў дзвюх групах, у залежнасці ад колькасці вучняў. Пераможцамі сталі ў першай групе сярэднія школы нумар 11, 1, ліцэй; у другой групе адпаведна - гімназія нумар 1, сярэднія школы 7, 16.

Падведзены вынікі агляду-конкурсу лепшых вучэбных кабінетаў горада. Цяпер загадчыкі гэтых кабінетаў будуць дзяліцца сваім вопытам з іншымі.

Падсумаваў жа ўсё зробленае адукацыйнай сістэмай горада гарсавет, які на аснове сесіі, праведзенай у канцы чэрвеня, прыняў рашэнне па выкананні ў горадзе закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі". У ім адзначаны не толькі набыткі і дасягненні школ горада, але і гаворыцца пра слабую матэрыяльную базу ўстаноў адукацыі, няскончаныя будоўлі, неправедзеныя рамонты.

***М.Пучыла***





*Нагадваем, што на газету*
***«Гоман Барысаўшчыны»***
*можна падпісацца ў любым аддзяленні сувязі. Падпісны індэкс*
**64184**

# Кампутарныя клубы Барысава

Датай, якая адкрыла "эру" барысаўскіх гульнёвых клубаў, з'яўляецца 19 мая 1998 года. Менавіта тады прыняў першых наведвальнікаў клуб "Tornado" (праўда, цяперашнюю назву ён займеў праз год). Прыблізна праз месяц адкрыўся яшчэ адзін клуб з некалькі дзіцячай назвай "Aladin". Варта адзначыць, што абодва клубы вельмі хутка сталі папулярнымі сярод damer'аў.

Мінуў час. Адбылося мноства мелкіх і буйных змен. "Tornado" перамясціўся з памяшкання Палаца культуры бліжэй да цэнтра горада. Абнавіўся парк гандлёвых сістэм, і цяпер у клубе ёсць 4 гульнёвых прыстаўкі SonyStation і 7 кампутараў, аб'яднаных у сетку. На жаль, толькі ў гэтым клубе можна пагуляць па сетцы з сябрамі (ці з ворагамі, каму як больш падабаецца). І не проста гуляць, а падтрымліваць званне чэмпіёна Барысава, бо тут рэгулярна праводзяцца турніры.

У клубе ёсць свой клан з аналагічнай назвай, байцы клана не раз абаранялі гонар горада на турнірах у Санкт-Пецярбурзе, Мінску, прычым займалі там не апошнія месцы. А яшчэ ёсць у іх кніга з дзіўнай назвай "Кніга скаргаў і прапаноў". Усе жадаючыя могуць запісаць у яе ўсё, што не спадабалася ці, наадварот, спадабалася ў клубе. Вельмі добра, што гэтая кніга вісіць непадалёк ад выхаду, што дае магчымасць хутка саступіць, калі каму-небудзь не спадабаецца ў вашых запісах.

"Aladin" таксама пашырыўся, павялічыў свой "парк гульнёвых прыставак" да 8 SonyStation, а таксама па адной прыстаўцы Super Nintendo і Nintendo-64. А яшчэ ў клубе ёсць адзін кампутар (жах!). Сеткай і турнірамі тут і не пахла, але ў цэлым клуб застаўся нядрэнным месцам, дзе можна бавіць час з сябрамі. Праўда раней у ім было цішэй і спакайней. Яшчэ варта дабавіць, што ў абодвух клубах даволі неблагі выбар гульняў.

А цяпер самае крыўднае. За мінулыя два гады ў Барысаве не з'явілася ніводнага новага гульнёвага клуба. Калі па праўдзе, то ёсць месцы, дзе можна пагуляць на прыстаўках, кампутарах, але ці можна назваць клубам пакой, дзе стаяць 486-кампутар і прыстаўка і нават не маюць уласнай назвы. Прычым абслуга ў так званых "клубах" не на ўзроўні. Дапусцім, прыйшлі вы пагуляць, а вам катэгарычна заяўляюць: "Грошы наўперад!" Ну заплацілі вы грошы за 2 гадзіны гульні, а ўсе месцы занятыя. Адказваюць: "Пачакайце або прыходзьце праз гадзіну". Прычым вы павінны з'явіцца роўна праз гадзіну, інакш вас могуць узрадаваць тым, што ваша месца ўжо занята.

Не жадаем навязваць вам свае думкі, хай кожны рашае сам, дзе яму бавіць час.

***А.Шумскі, В.Ушакоў.***

***P.S:*** *Усё вышэй напісанае не з'яўляецца рэкламай, ніхто нам (на вялікі жаль) нічога не плаціў.*

# Поглядам падарожнага

Бывае, што мы прывыкаем да недахопаў ва ўласным доме, тады мы іх як быццам не заўважаем. А бывае, што мы іх бачым, але робім выгляд, што не бачым, каб не адчуваць дыскамфорту або нічога не рабіць. Думаецца, што першае вельмі дрэнна, а другая сітуацыя і наогул характарызуе нас як нейкіх аморфных і амаральных істот.

Барысаў - наш агульны дом. І каб убачыць недахопы ў горадзе, трэба ўмець слухаць, тады, можа,сорам і стане тым штуршком, які дапаможа іх пазбавіцца.

Цікавыя думкі выказаў у рэдакцыі газеты адзін падарожны, які быў у нашым горадзе ўсяго некалькі дзён. Першае, на што звярнуў ён увагу, дык гэта на чыгуначны вакзал, бо з яго і пачынаецца горад. Прыезджаму чалавеку дастаткова наведаць прывакзальны туалет, каб сапсаваць настрой надоўга. Цікава, а ці наведвае гэты аб'ект начальнік вакзала?

Не дадумалася адміністрацыя вакзала ўстанавіць якія-небудзь лаўкі на платформах, а людзі чакаюць свайго цягніка падоўгу.

А вось непатрэбныя паперкі і іншае смецце пасажыры вымушаны кідаць проста на рэйкі, бо урны на платформах адсутнічаюць.

Прыкладна ў дзевяць гадзін адразу дзве электрычкі кіруюцца з вакзала ў супрацьлеглыя бакі. У гэты час збіраецца шмат пасажыраў, якія жадаюць узяць білет на цягнік. Але часта іх марам не суджана збыцца, бо не ўсе касы працуюць, і ўзяць білет можна, толькі адстаяўшы хвілін сорак.

Сваю адметнасць нашаму вакзалу надаюць падазроныя асобы з чырвонымі насамі, што сноўдаюць туды-сюды і, відаць, знаходзяць тут нейкі спажытак. Перыядычна з боку Оршы і Мінска прыходзяць электрычкі, прывозячы натоўпы змучаных працай дачнікаў. Ды, хутчэй за ўсё, іх тут не чакаюць. Каб сесці на жаданы гарадскі аўтобус, патрэбна прастаяць каля гадзіны. Вось тут і можна пачуць ацэнку працы вакзальнай адміністрацыі.

Паслухалі мы ў рэдакцыі падарожнага і мусілі пагадзіцца. А ці ж мы, шаноўныя барысаўцы, гэтага не бачылі?

***М.Пучыла***

Хто там ідзе?

Фота А. Казакова

# Ідзем на рэкорд!

Барысаў шмат у чым можа пазмагацца за дасягненні, якія вартыя ўвагі кнігі рэкордаў Гінеса. Вось, напрыклад, вуліца Будаўнікоў. Праезджую яе частку ад вуліцы Гагарына да палігона пачалі рабіць напярэдадні маскоўскай алімпіяды 1980 года. Але па сённяшні час з боку першага мікрараёна не зроблена суцэльная пешаходная дарожка. Людзі вымушаны хадзіць па праезджай частцы. Зараз з'явілася падстава спадзявацца, што апошні кавалак пешага шляху паміж базарам "Спатканне" і аптэкай у хуткім часе будзе завершаны. Больш чым дваццацігадовая эпапея будовы вуліцы Будаўнікоў (прабачце за каламбур) будзе скончана.

За час утварэння гэтай часткі вуліцы з нуля паўставалі суседнія мікрараёны, знікалі старыя і на іх месцы ўзнікалі новыя дзяржавы. Толькі пяскі на вуліцы Будаўнікоў заставаліся нязменнымі. Таму, калі я знаходжуся ў гэтым кутку нашага горада і назіраю за яго павольнымі зменамі, пачынаю разумець, што такое вечнасць.

Дваццаць год прывядзення да ладу маленькага кавалка вуліцы - гэта, мусіць, рэкорд. Але недалёка адсюль ужо які год будуецца універмаг. Магчыма, што наперадзе нас чакаюць новыя "дасягненні"...

***Ян Юроўскі***

# Складаная матэматыка

Калі вы часта карыстаецеся паслугамі аўтавакзала, то напэўна звярнулі ўвагу, што на ім маецца ўсяго 2 гадзіннікаў. Першы вісіць над касамі, а другі на пероне, куды прыбываюць аўтобусы. Калі вы хоць раз уважліва глядзелі на абодва гадзіннікі, то павінны былі звярнуць увагу на тое, што гадзіннік над касай паказвае дакладны мінскі час, а гадзіннік на пероне адстае на 12 мінут. Здавалася б, ну і хай адстае, у мяне на руцэ свой гадзіннік. Дык жа не, у тым і заключаецца ўся сутнасць работы аўтавакзала: білеты ў касе прадаюць да таго часу, пакуль да адпраўлення аўтобуса па раскладу не застанецца 5 хвілін. Расклад складзены па мінскаму часу. А аўтобус на платформу падаецца роўна ў той час, што ўказаны ў раскладзе, але карыстаючыся пры гэтым паказаннямі гадзінніка, які вісіць на пероне і адстае ад мінскага часу на 12 мінут.

І атрымліваецца, што калі аўтобус па раскладу прыбывае да платформы ў 12 гадзін, то апошні білет будзе прададзены ў 11.55 па мінскаму часу, а аўтобус да платформы прыбудзе роўна ў 12.12 аўтавакзальнага часу (дазвольце яго так назваць), г.зн. рэальна білеты можна было прадаваць да 12.07 мінскага часу.

Але калі да гэтага падысці з другога боку, то двайны стандарт часу можа быць нават і карысным. Уявім сабе, што аўтобус з вакзала адпраўляецца ў 12.00, а вы спазніліся і прыйшлі на аўтавакзал у 12.05, можаце не хвалявацца, бо ваш аўтобус да платформы яшчэ не пад'язджаў, і у вас ёсць час купіць сабе бяляш і нават з'есці яго ( к слову, рэкамендую: калі яны гарачыя, то вельмі смачныя).

Цікава б было пачуць па гэтаму поваду меркаванне прадстаўнікоў аўтавакзала, але аб гэтым у наступным нумары.

Шчаслівай дарогі! І запомніце: білет купляйце раней, а на аўтобус можна прыходзіць пазней.

***М.Лазар***

# Перспектыва ёсць?!

Даўно ўжо стартаваў 10 чэмпіянат Беларусі па футболу. БАТЭ крыху акрыяў ад стартавых няўдач, зайграў больш упэўнена. Але гэта дазволіла барысаўскаму клубу толькі замацавацца ў сярэдзіне турнірнай табліцы. БАТЭ варта зрабіць энергічны рывок, і ён ліквідуе адставанне ад каманд, якія выйшлі ўперад. Чарговыя ж паражэнні могуць адкінуць чэмпіёнаў-99 у падвал турнірнай табліцы.

На падобныя думкі і настрой падштурхнулі апошнія падзеі, што адбыліся ў штабе каманды БАТЭ. Каманда пачала пошук вопытных ігракоў перад стартам у лізе чэмпіёнаў (у першым раўндзе супернік БАТЭ - армянскі "Шырак"). У выніку ў складзе барысаўскага клуба з'явіліся О.Кароль (са славацкага ДАСа) і Г.Мардас (з украінскай "Таўрыі"). Да канца сезона ў арэнду ўзяты В.Скрыпчанка - ігрок, які так палюбіўся барысаўцам і продаж якога выклікаў буру пратэсту. Выхад Вадзіма на замену ў матчы супраць армянскага "Шырака" прыдаў барысаўскай камандзе ўпэўненасць і стабільнасць у гульні.

"Геніяльны сплаў маладосці з вопытам", - такія эпітэты сыпаліся ў адрас БАТЭ ў мінулым сезоне. І з прыходам Караля, Мардаса, Скрыпчанкі барысаўская каманда, будзем спадзявацца, нарэшце знойдзе сваю гульню і ў гэтым чэмпіянаце. Тым больш, што і маладыя ігракі паступова набываюць упэўненасць.

"Думаю, нармальна згулялі. Ачнуліся ад таго жаху, які пачаўся з візіту ў Салігорск. Зараз знаходзім сваю гульню. Абавязкова прыбавім, усё ў нас атрымаецца. Каманда ўжо паверыла ў сябе. Разам з трэнерамі думаем аб ранейшых высокіх задачах". (А.Глеб у інтэрв'ю газеце "Прэсбол" пасля матча з "Камунальнікам"). Пажадаем удачы нашай любімай камандзе.

***С.Станкевіч***



# Наталіце прагу душы

Тэрмін "выжыванне" пастаянна суправаджае ў апошняе дзесяцігоддзе як кожнага чалавека паасобку, так і цэлыя сацыяльныя сферы. І кожны пагодзіцца з тым, што выжыванне культуры, асабліва на вёсцы, ператварылася ў адчайную барацьбу за жыццё. Як цяжка не прыходзілася, але таксама ніводзін разумны чалавек не будзе сцвярджаць, што культура здае свае пазіцыі ў гэтай упартай барацьбе. Так стацца не можа, бо носьбіты яе і абаронцы - самаадданыя і захопленыя людзі.

Загадчык аддзела культуры Барысаўскага райвыканкама Міхаіл Аляксандравіч Храпко ў гутарцы з нашым карэспандэнтам пацвярджае гэтую думку і дзеліцца новымі планамі, задумкамі, аптымізмам.

**- Міхаіл Аляксандравіч, аб тым, што наша Барысаўшчына багатая культурным патэнцыялам, сведчаць незабыўныя сёлетнія падзеі. Абласны "Кірмаш-2000" літаральна зіхацеў талентамі народных калектываў, як дзіцячых, так і дарослых, захапляў высокамастацкімі работамі асобных майстроў. Святочныя дні, прысвечаныя гадавіне вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, таксама засталіся ў памяці, дзякуючы іх багатаму мастацкаму аздабленню. І ўсім людзям, якія гэта забяспечылі, патрэбна сказаць вялікі дзякуй.**

- Вядома ж, удзячнасць мы ўсе адчулі. Перш за ўсё яна зыходзіла ад гледачоў, слухачоў, пакупнікоў. Вельмі прыемна, што заўважаны нашы поспехі і ў абласным упраўленні культуры. Па выніках "Кірмашу-2000" граматамі аблвыканкама і грашовымі прэміямі адзначаны многія нашы творчыя калектывы і народныя майстры. Гэтых узнагарод удастоены ўдзельнікі народнага ансамбля народнай музыкі "Траецкія музыкі", кіраўнік народнага фальклорнага ансамбля "Лаўнічанка" Г.М.Казлова, дырэктар раённага цэнтра народнай творчасці Наталля Анатольеўна Кавалеўская. Узнагароджаны таксама і нашы народныя мастакі. Гэта майстар па мастацкаму шклу Л. Ф. Шутко, выдатная ткачыха З.П.Акуневіч, майстрыха з Лошніцы Малання Несцераўна Чарнавокая, якая літаральна заваражыла ваколіцы хараством сваіх вышывак.

**- А ці знайшліся сродкі ў раённым аддзеле культуры, каб заахвоціць і іншых вартых таго ўдзельнікаў кірмашу?**

- Сродкаў, вядома ж, вельмі мала, але на такую патрэбную справу пастараліся іх адшукаць. Цяпер разглядваецца пытанне аб узнагароджанні граматамі Барысаўскага райвыканкама і грашовымі прэміямі гурты калектываў і майстроў, сярод якіх, напрыклад, вядомы і любімы многімі народны ансамбль народнай песні "Асалода" з Касцюкоў.Што датычыцца сродкаў, то на гэтую тэму хацелася б пагутарыць шырэй. Не сакрэт, што грошы ў культурную сферу вёскі паступаюць у залежнасці ад магчымасцей, свядомасці і зацікаўленасці кіраўнікоў раённых гаспадарак і ўстаноў. На шчасце, такія кіраўнікі ёсць, хоць іх і не шмат. Не задумваючыся можна назваць дырэктара саўгаса "Стара-Барысаў" Г.І.Куляшова, кіраўнікоў крухмальнага завода. Вялікай праблемай на сённяшні дзень застаецца будаўніцтва новых культурных устаноў у вёсцы. Без перабольшвання можна сказаць, што літаральна на рызыку ідуць тыя кіраўнікі, якія пры ўсіх эканамічных цяжкасцях за гэтую справу бяруцца. Тым не менш, будуюцца новыя дамы культуры ў саўгасе "Гвардыя", калгасе "Чырвоная зорка". Даўно ўжо патрабуюцца затраты значных сродкаў на рамонт ацяпляльнай сістэмы Жыцькаўскага сельскага дома культуры. І ўжо ёсць дамоўленасць са старшынёй калгаса "Маяк" аб выдзяленні гэтых сродкаў да пачатку будучага ацяпляльнага сезона. Проста дыхаецца лягчэй, калі ўдаецца вырашыць хоць адну са шматлікіх гаспадарчых задач, наспеўшых у культурнай сферы. Вельмі радуе тое, што заканчваецца рамонт памяшкання бібліятэкі ў Карсакавіцкім доме культуры, а з дапамогай вельмі ўважлівага да патрэб культуры дырэктара саўгаса "Барысаўскі" А.Ф.Акуліча рамантуецца Негнавіцкі сельскі клуб.

**- Як прафесіянал, Вы, напэўна, пастаянна параўноўваеце становішча ў культурным жыцці нашага раёна з іншымі раёнамі вобласці, рэспублікі. Да якіх высноў Вы прыходзіце?**

- Па меншай меры скардзіцца на тое, што ў нас горш, у мяне няма ніякіх падстаў. Самае свежае таму пацвярджэнне - прапанова абласнога ўпраўлення культуры правесці ў Барысаўскім раёне семінар-практыкум для работнікаў метадычных цэнтраў і раённых дамоў культуры вобласці.

**- Якая задача гэтага семінара, ці вядома ўжо яго праграма?**

- Разлічваем паказаць на справе сваім калегам творчыя знаходкі нашага метадычнага цэнтра культуры. Канкрэтныя адрасы работы семінара вядомы. Пакажам разнастайную шматпланавую работу аднаго з самых буйных у раёне Лошніцкага дома культуры. Будзе што паглядзець гасцям і ў Касцюках, якія, дзякуючы творчым намаганям мясцовых культурных работнікаў, а таксама аматараў, ператварыліся ў сапраўдны песенны край. Вопыт Весялоўскага сельскага клуба, спадзяемся, будзе цікавым калегам вынікoвай работай з дзецьмі і моладдзю.

**- Здавён у народзе вядзецца, што лета - пара працы, а таксама і песні. Мяркуючы па тым, песня на Барысаўшчыне павінна гучаць яшчэ званчэй...**

- А то як жа! Спяём і сыграем зажынкі, а потым і дажынкі - з новымі хлебаробскімі здабыткамі і адвечнай прагай да ўзбагачэння духоўнага.

**- Шчырае дзякуй за гутарку.**

***А.Турко***


Фота 1992 г.

# Ён быў апошнім...

Наша газета ўжо не раз пісала пра млын у вёсцы Гара. У першым нумары за 1996 год мы нагадалі пра адну цікавую гісторыю, якая мела месца вакол яго сто год таму. Але ўжо ў наступным годзе мы вымушаны былі канстатаваць, што будынак млына быў разабраны. Рэшткі ж абсталявання яшчэ заставаліся стаяць пад адкрытым небам. І вось сёння мы зноў мусім звярнуцца да гэтай тэмы.

Каля былога млына сёлета распачата будаўніцтва новага маста праз Плісу. Пры правядзенні работ былі знішчаны апошнія рэшткі тых прыстасаванняў і прылад млына, якія дайшлі да нашага часу. Абсталяванне было часткова скінута ў Плісу, часткова разламана і раскідана па зямлі або ёю засыпана.

Вадзяныя млыны на Беларусі вядомы з XI - XII стагоддзяў. Дакументы XVI стагоддзя і больш познія сведчаць аб тым, што на Барысаўшчыне іх была вялікая колькасць. Практычна ў любой вёсцы, на хутары або фальварку, якія знаходзіліся каля рэк, абавязкова быў млын. На пачатку XX стагоддзя іх у нашым краі былі дзесяткі, а мо і болей за сотню. У адным Барысаве на Схе іх было тры. У гэта, на першы погляд, цяжка паверыць, але да нашага часу не дайшоў ніводны з тых шматлікіх млыноў. Што гэта, як не мэтанакіраванае знішчэнне? Вынішчэнне ўсяго, што звязана з нашай мінуўшчынай? Ніякі здаровы сэнс не ў стане гэта зразумець і растлумачыць.

Тым, хто мае жаданне ўбачыць паўразламаныя рэшткі апошняга млына на Барысаўшчыне, раім неадкладна зрабіць гэта. У хуткім часе ад іх нічога не застанецца. Усё асноўнае яго сілавое абсталяванне было выканана з дрэва. Усё разам яно магло б добра праслужыць не аднаму пакаленню ў якасці наглядных дапаможнікаў аб ведах і тэхнічных магчымасцях нашых продкаў у мінулыя часы. Замест гэтага застаецца толькі пустэча. Калі ж у нас у рэшце рэшт усё будзе рабіцца з розумам?

*А.Барэвіч*


Фота 1991 г


Фота 1992 г


Фота 2000 г

# Жнівень

Назва апошняга летняга месяца - напамін пра галоўную сялянскую працу ў гэтую пару. Кожнаму гаспадару было вядома: "Хто ў жніўні гуляе, той зімой галадае".

**1/19**. Серафім, Раман, Сцяпан, Міліца, а таксама Макрына - імя яе не магло не выклікаць асацыяцыі з макрэчай, з дажджом. Калі ў дзень Макрыны дождж , то ўсё лета і восень будуць мокрыя, а калі суха, то восень сухая. На святую Макрыну нельга было палоць грады, таму што ўсякая гародніна адмокне ад вялікіх дажджоў.

**2/20.** Прарок Ілля. Грымоты з маланкамі тлумачылі тым, што гэта сам прарок у вогненнай калясніцы раз'язджае па небе. А каб не ўзнік пажар ад навальніцы, стараліся не працаваць. Калі ж выпадала сонечнае надвор'е, баяліся гневу Іллі, які можа пакараць людзей засухай. Нормай лічылася, што прарок Ілля прынясе дождж: "Ілля наробіць гнілля". Ад Іллі пачыналася жніво. Гэты дзень успрымаўся як рубеж паміж летам і восенню: "На Іллю да абеду лета, а па абедзе восень". "Прыйшоў Ілля і ўкінуў у ваду алядня". Менавіта з гэтага дня забаранялася купацца.

**3/21.** Сымон, Іван, Анупрэй, Анісім.

**4/22.** Марыя, Магдалена, Фока, Карніл. Дажджы, непагадзь ад папярэдніх "мокрых" дзён Макрыны і Іллі не спыняліся: "Магдалена - вады па калена".

**5/23.** Трафім, Феафіл, Апалінар.

**6/24.** Барыс і Глеб. "Барыс і Глеб - паспеў хлеб". У гэты дзень забараняліся цяжкія работы з-за пагрозы раптоўнага дажджу з навальніцай, якая можа разнесці скіданы ў гэты дзень стог ці спаліць яго маланкай. Ні прыбіраць сена, ні звозіць яго ў гумно было нельга, інакш, гаварылі, на свае будынкі сцягваеш перуны і наклікаеш пажар. Саломай ад зжатага на Барыса і Глеба збожжа хаты не крылі, бо, лічылі, страху знясе вецер ці спаліць маланка. У некаторых мясцінах ушаноўваецца і Палікарп.

**7/25**. Ганна, Макар. Сустракаліся мясціны, дзе на Ганну працаваць можна было толькі на талацэ або па найму. "Макар нальe ў рукаў".

**8/26.** Ермалай, Майсей, Параскева.

**9/27.** Угоднік Панцеляймон лічыцца лекарам, асабліва ад хвароб галавы. Дзень адзначае таксама Мікалая, Анфісу, Клімента, Германа, Навума, Саву.

**10/28.** Прохар, Міканор, Піцірым, Майсей, Астап, Юльян, Акакій.

**11/29.** Калінік, Кастусь, Кузьма, Серафіма, Хвядоцця, Міхал, Яўстафій.

**12/30.** Сіла, Андронік, Іван, Герман, Лука, Алімп, Максім, Валянцін, Апалон. Калі паспявалі закончыць жніво, гаварылі, што ў гэты дзень карысна пачаць сяўбу новага хлеба: "Хто на Сілу жыта пасее - у таго на хлеб надзея". Івану-воіну маліліся, каб адшукаць украдзеныя рэчы і коней і пакараць злодзеяў.

**13/31.** Еўдакім, Юліта.

**14/1**. Першы Спас ( Макавей). Кажнай гаспадыні трэба было прыгатаваць хоць бы адну страву, якую можна мачаць, - бліны, сачні з пражанінай і інш. Пчаляры здабывалі мёд, каб мачаць у яго агуркі і хлеб.

У жніўні, але пераважна на Спаса, павінна прайсці Рабінавая ноч. На працягу яе грымоты скаланаюць неба, грозна бліскаюць маланкі, лье праліўны дождж, дзьме моцны вецер. Згодна з народнымі павер'ямі, у гэту ноч з пекла на свет выходзяць усе злыя сілы, якія нібы спраўляюць сваё галоўнае гадавае свята і страшаць хрышчоных людзей. Паводле іншых меркаванняў, у гэту ноч усе сілы прыроды ядналіся, каб знішчыць "нячыстую сілу", што распладзілася пасля Купалля і шкодзіла людзям. Лічылася, што неспакойная ноч патрэбна для выспявання ягад на рабіне. Калі ж ягады не спелі, чакалі благога заканчэння лета і халоднай восені.

**15/2.** Сцяпан, Нікадзім, Васіль.

**16/3.** Ісак, Далмат, Кузьма, Антон. "Антонывіхравеі".

**17/4.** Максімільян, Іван, Дзяніс, Канстанцін, Антанін, Еўдакія.

**18/5.** Еўсцігней, Нона.

**19/6.** Другі Спас, ці "яблычны" Спас - самы вядомы і шаноўны ў народзе. Звязваўся перш за ўсё з паспяваннем яблыкаў і асвячэннем іх у царкве. Вельмі пашырана павер'е, што да Спаса нельга есці яблыкі, бо будуць дзеці паміраць. Не менш дзейнічала забарона есці перад Спасам яблыкі на тых людзей, у якіх папярэдне паміралі дзеці. На тым свеце, казалі, Бог будзе раздаваць на Спаса яблыкі (як і іншую садавіну), а таму дзіцяці, чыя маці каштавала іх раней дазволенага тэрміну, пачастунку не дастанецца. У многіх мясцінах людзі, пабываўшы ў царкве, неслі яблыкі на могілкі, дзе клалі ўсёй радні па яблычку..

Ад другога Спаса пачыналася сяўба азімага жыта. Згодна са звычаем, калі пчаляр пашкадуе даць мёду хоць аднаму з прысутных дзяцей, пчолы прападуць. Лічыўся днём адлёту буслоў. Калі буслы пачыналі рыхтавацца ў вырай за тыдзень перад Спасам, значыла, што раней надыдзе зіма і будзе яна марозная, а вясна цяплейшая. Калі пачынаюць рыхтавацца пасля Спаса, восень будзе цёплая, зіма позняя, вясна халодная.

**20/7.** Дамецій, Мітрафан, Пімен.

21/8. Емяльян, Рыгор, Засіма, Савацей, Мірон, Леанід.

**22/9.** Апостал Мацей, Антон, Юльян, Марціян, Іван, Якуб, Аляксей, Дзмітрый, Фоцій, Пятро, Лявонцій, Марыя.

**23/10.** Лаўрэн, Раман. "На Лаўрэна спяшай да млына".

**24/11.** Хведар, Васіль, Клаўдзій, Максім, Аляксандр.

**25/12.** Фоцій, Аляксандр, Памфіл, Капітон. Пачынаўся Чарвівы тыдзень, на які нельга было сеяць хлеб, бо ён дасць "чарвівую муку".

26/13. Максім, Ціхан, Іпаліт.

**27/14.** Міхей, Хвядос, Аркадзь, Маркел.

**28/15.** Прачыстая (Успенне) - самае значнае свята ў канцы лета. На Прачыстую асвяшчалі хлеб.

**29/16.** Дзямід, Трэці Спас, арэхавы, падыходзіла пара паспявання арэхаў.

**30/17.** Мірон, Павел, Ульяна, Фірс, Стратон, Піліп, Кіпрыян.

**31/18.** Святы Флор і Лаўр ушаноўваліся ў народзе як заступнікі коней. На конях у гэты дзень не працавалі.

***Падрыхтавала І.Граковіч***

# Не адставаць ад Еўропы

Барысаўскі завод агрэгатаў - адно з тых нямногіх прадпрыемстваў, якія працуюць на сённяшні дзень дастаткова стабільна, распрацоўваюць і ўкараняюць у вытворчасць новыя віды прадукцыі і выходзяць на міжнародны рынак. У адпаведнасці з гэтым на заводзе ўкараняецца сістэма сертыфікацыі прадукцыі ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі якасці.

Пэўны плён ад намаганняў завадчан у асваенні новых гарызонтаў вытворчасці ўжо ёсць. На заводзе пабывала дэлегацыя дзелавых людзей з Балгарыі, якія і прапанавалі сумесную работу па вытворчасці вузлоў для машын.

***А.Турко***

# Шукай сябе сёння

Вельмі цяжка застацца непахісным, калі страчваеш жыццёвую ўстойлівасць, якую дае работа. Медыкі нават прыдумалі спецыяльны тэрмін, які вызначае хваравітае становішча чалавека, страціўшага работу - "неўроз беспрацоўя".

Навуковыя даследванні паказваюць, што кожным трэцім страта ацэньваецца, як цяжкае здарэнне. Вельмі глыбока ўсведамляецца гэта людзьмі, найбольш працаздольнымі, якія маюць пэўную прафесію, кваліфікацыю, стаж работы, сям'ю. Толькі кожны пяты ўспрымае сваё беспрацоўе спакойна. Большасць з іх - маладыя людзі ва ўзросце да 25 гадоў. Гэта і зразумела, бо яны ўсё яшчэ спадзяюцца на бацькоў, якія не пакінуць у бядзе.

Але дзеці не заўсёды будуць дзецьмі. Гэта найперш іх павінны зразумець дарослыя і, тым болей, тыя, каму належыць гэта па абавязку службы. Барысаўскі цэнтр занятасці насельніцтва распачаў сёлета хоць і далёка не маштабны яшчэ, але ўсё ж праект частковай занятасці старшакласнікаў на перыяд летніх канікулаў, які плануецца развіваць у далейшым.

Старгаваў гэты праект са стварэння вучнёўскіх рамонтных брыгад, асноўнае прызначэнне якіх - падрыхтоўка школьных памяшканняў да новага навучальнага сезона. Цэнтр занятасці сумесна з гарадскім аддзелам адукацыі выдзелілі сродкі для закупкі неабходнага інвентару, а таксама на аплату працы юных рамонтнікаў. Пакуль працуе толькі некалькі такіх брыгад і далёка не ўсе жадаючыя старшакласнікі там працуюць, здабываючы няхай і не вялікія сродкі ў сямейны бюджэт. Але ўжо відавочна, што справа гэтая варта таго, каб яе развіваць. Акрамя набалелай праблемы частковай занятасці падлеткаў, яна паспрыяе вырашэнню і яшчэ адной, не менш важнай. Гэта летні рамонт школ уласнымі сіламі, бо, як вядома, сёлета гарадскі бюджэт не ў стане выдзеліць на гэтую справу ніводнай капейкі.

Служба псіхалагічнай падтрымкі і сацыяльнай адаптацыі беспрацоўных, якая адкрыта пры Барысаўскім рэгіянальным Цэнтры занятасці летась атрымала назву "Знайдзі сябе". Тыя, каму даводзіцца карыстацца яе паслугамі, не будуць спрачацца, што шукаць сябе найбольш патрэбна з маладых гадоў. І калі задумаешся над тым, якая маса ўсхваляваных і заклапочаных абітурыентаў, што нервова гартаюць старонкі падручнікаў у прыгарадных электрычках, застануцца ўжо хутка па-за дзвярамі абраных імі навучальных установаў, то пачынаеш усведамляць сапраўдны маштаб найсур'ёзнейшай сацыяльнай праблемы.

Не сказаць, што Цэнтр занятасці не клапоціцца аб маладых людзях, якія не паступілі пасля заканчэння школы ў навучальныя ўстановы. Наадварот, гэта адна з асноўных задач Цэнтра. Пры ім існуюць бясплатныя курсы па навучанню прафесіям, якія карыстаюцца попытам на рынку працы.

Аднак, ці гатовы псіхалагічна ўчарашнія выпускнікі, акрыленыя высокімі марамі, успрыняць "бяскрылыя" будні здабывання хлеба надзённага, як канкрэтную, безварыянтную рэальнасць? Згадзіцеся, што кінуцца пад бацькоўскае крыло пасля няўдачы лягчэй, чым сесці за вывучэнне спецыяльнасці машыніста кампрэсарнай установкі...

Бясспрэчна, выйграе і забяспечыць сабе будучыню той, хто пагодзіцца з рэальнасцю. Па меншай меры, у яго будзе болей шанцаў пазбегнуць той сітуацыі, пры якой беспрацоўны чалавек ужо саліднага ўзросту вымушаны пры падтрымцы ўсё таго ж Цэнтра занятасці перасяляцца з сям'ёй на іншае месца жыхарства ў гаспадаркі нашага раёна ці ў іншыя рэгіёны рэспублікі, атрымаўшы на ўсё гэта каля дзесятка мінімальных зарплат і права бясплатнай перавозкі пасажыраў. Зразумела, што знайсці сябе пры гэтым удаецца далёка не кожнаму.

***А.Турко***

# Слаўнае мястэчка Зембін



*Касцёл і кляштар XX дамініканцаў заснаваны з фундацыі падканцлера Ашмянскага Адама Саковіча і яго жонкі ў 1609 годзе (па іншых звестках у 1640 годзе). У 1790 годзе стары драўляны будынак касцёла згарэў. У 1790 - 1809 гадах будуецца новы мураваны храм, які ў вельмі дрэнным стане, але ўсё ж захаваўся да нашага часу. Асвечаны ён быў 15 жніўня 1809 года. У 1833 годзе кляштар зачыняецца з-за актыўнага ўдзелу манахаў у вызваленчым паўстанні. Касцёл функцыянаваў да 1933 г. і пэўны перыяд падчас другой сусветнай вайны.*



① Будынак касцёла
② Зембінская каталіцкая абшчына падчас другой сусветнай вайны
③ Былы млын
④ Адзін са шматлікіх падмуркаў, што захаваўся на месцы маёнтка
⑤ Дом, у якім жыў Ізі Харык
⑥ Дом, у якім жыў Язэп Шпэт
⑦ Язэп Шпэт з ляменнікам (фота пач. 50-х гадоў)
⑧ Былы дом папа, пач. XX ст.
⑨ Царква (выгляд да пачатку рэстаўрацыі)

Зембін з'яўляецца адным з найстаражытных населеных пунктаў на Барысаўшчыне. Гэта падкрэслівалі яшчэ ў XIX стагоддзі ўсе даследчыкі нашага краю. Калі менавіта ён быў заснаваны, зараз ужо не скажа ніхто. Але, безумоўна, ён значна старэйшы за Барысаў.

Найбольш старое пісьмовае ўзгадванне Зембіна адносіцца да 1526 года. Ужо ў той час тут меўся вялікі маёнтак, якім валодалі Радзівілы. Сведчаннем значнасці маёнтка з'яўляецца і тое, што ў пэўныя часы для кіравання ім прызначаўся дзяржаўца. Як вядома, дзяржаўцы ў Вялікім княстве Літоўскім у тыя часы прызначаліся толькі ў вялікакняскія або ў буйныя маёнткі. У ліпені 1592 года дзяржаўцу Зембінскага маёнтка звалі Януш Длузскі. Напрыканцы XVI - пачатку XVII стагоддзя маёнтак належыў прадстаўніку іншага вядомага на Беларусі роду - Станіславу Кішку.

У XVI стагоддзі - першай палове XVII стагоддзя назіраецца росквіт Зембіна. У гэты час ён мае статус мястэчка. З сярэдзіны XVII стагоддзя з-за вайны і яе наступстваў Зембін, як і ўся краіна, перажывае моцны заняпад. Не прынёс яму палёгкі і пачатак XVIII стагоддзя. Вайсковыя дзеянні падчас шведскай вайны Зембін мінулі, але працяглае размяшчэнне тут саюзнага маскоўскага войска на чале з Меншыкавым даявяло гэты край да поўнага жабрацтва.

У XVIII стагоддзі з-за свайго дрэннага стану Зембін губляе статус мястэчка. У 1777 годзе тут маецца 38 двароў, карчма, бровар і два вадзяных млыны.

Пераломным у лёсе Зембіна стаў 1783 год. Тагачасны яго гаспадар Храптовіч дамогся вяртання Зембіну статуса мястэчка і запрасіў сяліцца ў ім усіх вольных людзей (як хрысціян, так і нехрысціян) і стварыў ім умовы для развіцця гандлю. З гэтага часу ў Зембіне пасяляюцца яўрэі, а сам ён пачынае хутка расці. Этнічная змена складу насельніцтва мястэчка прывяло да змены яго выгляду. Раней на цэнтральнай гандлёвай плошчы стаяла царква. Зараз жа на яе месцы была ўзведзена сінагога (дарэчы, на гэтым месцы апошняя сінагога існавала яшчэ да другой сусветнай вайны), а новая царква была пабудавана ў баку ад цэнтра - там, дзе і зараз знаходзіцца больш позняя праваслаўная бажніца.

У 1793 годзе, пасля анексіі тутэйшых земляў у склад Расійскай імперыі, Зембін адбіраецца ў яго тагачаснага ўладальніка Яўхіма Храптовіча, але ўжо ў 1807 годзе вяртаецца яго сыну Ірэну.

У 1795 годзе ў Зембіне ўтвараецца пошта. Яна мела чатыры паштальёны і восем коней.

Падчас вайны 1812 года ў Зембіне правёў першую ноч пасля трагічнай пераправы праз Бярэзіну Напалеон. Тут жа ў касцёле спавядаўся цяжкапаранены французкі генерал. У Зембіне ён памёр і быў пахаваны.

У 1834 годзе Ірэн Храптовіч прадае частку Зембіна Ліхадзіеўскаму. Апошні здае яго ў арэнду.

Вайна паміж Расіяй і Францыяй і вызваленчыя паўстанні XIX стагоддзя, у якіх актыўна ўдзельнічалі зембінцы, спынілі рост мястэчка. Калі ў 1800 годзе яно мела 52 двары, то ў 1864 годзе - усяго 50. У далейшым Зембін хутка расце. У 1880 годзе ў ім ужо было 139 двароў (101 з якіх належылі яўрэям), 635 жыхароў. З'яўляўся Зембін і цэнтрам воласці. У яе ў 1890 годзе ўваходзіла 124 населеных пункты з агульнай колькасцю насельніцтва 9202 жыхары.

У 1908 годзе ў Зембіне ўжо жылі 1189 чалавек, а ў яго маёнтку - яшчэ 28. Гэта на чвэрць болей яго сучаснай колькасці насельніцтва. Меўся вадзяны млын, чатыры кузні, школа, 23 крамы, бальніца, тры карчмы і пяць заезджых дамоў.

З 1924 па 1927 год Зембін быў цэнтрам аднайменнага раёна. Зараз - цэнтр сельскага савета.

Зембін з даўніх часоў з'яўляўся не толькі гандлёвым, рэлігійным і адміністрацыйным цэнтрам. Ён увесь час з'яўляўся адным з галоўных цэнтраў культуры і адукацыі на Барысаўшчыне. На жаль, да нас не дайшлі звесткі аб іх развіцці ў Зембіне ў XVI - XVII стагоддзях і ў больш раннія часы. Аднак бібліятэка, якая, хутчэй за ўсё, пачала ўтварацца з заснаваннем у першай палове XVII стагоддзя кляштара дамініканцаў, з'яўлялася ў свой час самай багатай у нашым краі. Існавала яна да 1812 года, калі згарэла падчас вайсковых дзеянняў. Былі ў Зембіне з даўніх часоў і навучальныя ўстановы. Так, разам з пабудовай на пачатку XIX стагоддзя новага будынка касцёла, пры ім была ўтворана школа. У 1863 годзе ў Зембіне была адкрыта дзяржаўная, так званая міністэрская вучэльня.

Любы населены пункт слаўны сваімі жыхарамі. Многія зембінцы таксама праславілі сваё мястэчка. У гэтым артыкуле мы гэта пацвердзім толькі некалькімі прозвішчамі.

23 лютага 1891 года ў сям'і мясцовага арганіста Геркулана Аляксандравіча нарадзіўся сын Юзаф, які пазней, у адпаведнасці з беларускім вымаўленнем, назваў сябе Язэпам. Першапачатковую адукацыю атрымаў дома. Потым у Вільні авалодваў сакрэтамі майстэрства вырабу масла. Пад час вучобы зблізіўся з супрацоўнікамі газеты "Наша ніва" і сам стаў спрабаваць свае сілы ў літаратуры (адзін час нават меў намер працаваць у рэдакцыі). Але вярнуўся ў родны Зембін, у якім і навакольных вёсках працаваў аканомам, майстрам па апрацоўцы малака. У 1913 годзе -

③


④





**Помнікі і магілы:**

1 - Язэпу Шпэту; 2 - ахвярам зембінскага гета; 3 - землякам, якія загінулі ў 1941 - 1945 гадах; 4 - брацкая магіла партызанам; 5 - брацкая магіла воінам і партызанам.

**Могілкі:**

6 - каталіцкія, 7 - праваслаўныя, 8 - старыя яўрэйскія.

**Адметныя дамы:**

9 - дом, у якім жыў Язэп Шпэт (вул. Ленінская, 42), 10 - дом, у якім жыў Ізі Харык (вул. Савецкая, 7).



⑨

*Час заснавання царквы ў Зембіне невядомы. Першапачаткова яна была праваслаўнай, потым - уніяцкай. На гэтым месцы першая драўляная царква была пабудавана паміж 1783 і 1800 гадамі як Святатроіцкая. Згарэла ў 1807 годзе. У 1811 годзе абдудавана з дрэва за намаганнямі Францішка Сержпутоўскага. У 1839 годзе пераводзіцца ў праваслаўе. У 1840 годзе робіцца яе рамонт. Царква абшываецца дошкамі. У 1862 годзе будуецца новая драўляная Святамікалаеўская царква. Яе будаўніцтва абышлося ў 2225 рублёў. У 1900 годзе яна згарэла. Узамен яе на пачатку XX стагоддзя была ўзведзена новая цагляная бажніца, якая захавалася да нашых дзён.*



⑧

зноў у Вільні (служыў у арміі).

У савецкі час працаваў сакратаром Зембінскага суда, рахункаводам у вучлясгасах (Камянка і Плешчаніцы), рахункаводам - статыстыкам у Барысаўскай МТС, лабарантам на масла - сырзаводзе ў родным мястэчку. Быў актыўным арганізатарам калгасаў. У мясцовым калгасе працаваў бухгалтарам да самай смерці. Памёр Язэп Шпэт 21 студзеня 1955 года і пахаваны на мясцовых каталіцкіх могілках.

Імкненне да творчасці ў Язэпа Шпэта, безумоўна, ад малаграматных, але вельмі таленавітых бацькоў і мела самыя розныя праявы. Сюжэты апавяданняў (а надрукаваў іх пісьменнік звыш двух дзесяткаў) ён браў з жыцця. У іх адлюстроўваліся кожнадзённыя клопаты простых людзей, іх цяжкае жыццё і рэдкія ўдачы. Да вяршынь прафесіянальнага майстэрства мастаку слова з Зембіна ўзняцца не ўдалося (ды, падобна, да гэтага ён і не імкнуўся).

Творчая натура Шпэта добра выявілася ў яго жывапісных работах (асабліва пейзажах ваколіц роднага мястэчка), у яго выкананні народных песень (ведаў іх не адну сотню), ва ўменні спрытна танчыць, ткаць паясы, вышываць, граматна, разумна весці гаспадарку, уладкоўваць быт. На жаль, нічога з яго рукапісаў, перапіскі з выдатнымі людзьмі Беларусі, ніводнай карціны, вышыўкі, пояса не знойдзена. І шансы на знаходкі мізэрныя.

Калі Язэп Шпэт толькі пачаў сваю вучобу ў мясцовай школе, у сям'і шаўца Харыка 17 сакавіка 1898 года нарадзіўся сын Ізі, якому выпала кароткае і трагічнае жыццё. Будучы выдатны паэт вучобу пачаў дома, прадоўжыў у Вышэйшым літаратурным інстытуце імя В.Брусава, у Маскоўскім дзяржаўным універсітэце. Пісаў на мове ідыш. Рана вылучыўся ў рад самых вядомых, аўтарытэтных яўрэйскіх пісьменнікаў. Выдаў больш дзесятка зборнікаў вершаў і паэм. У перакладзе на беларускую мову выдадзены "Выбраныя творы" (1958 г.) і "Выбранае" (1969 г.). Займаў важныя пасады як творца і як дзяржаўны дзеяч. Верай і праўдай служыў савецкай уладзе, што аднак не выратавала яго ад жорсткай расправы. У 1937 годзе быў арыштаваны і загінуў. Па адной версіі, растраляны, па другой - скончыў жыццё самагубствам, кінуўшыся ў топку кацельні. У Зембіне адна з вуліц носіць яго імя.

Хоць Надзея Пятроўна Хадасевіч (Надзея Лежэ) нарадзілася ў 1902 годзе ў вёсцы Асецішчы Віцебскай вобласці, сваёй сапраўднай радзімай яна лічыла мястэчка Зембін, куды неўзабаве пераехала сям'я яе бацькоў. Зрэшты, пражыла яна тут нядоўга, бо пажар першай сусветнай вайны прагнаў іх сям'ю ў горад Бялёў. Потым у яе лёсе быў Смаленск (вучоба ў Казіміра Малевіча), Варшава (вучоба ў Акадэміі мастацтва) і нарэшце Парыж, аб якім яна марыла з маленства. Лёс падараваў ёй сустрэчу, сумеснае жыццё і творчасць з вядомым французскім мастаком Фернанам Лежэ. Чалавек вялікага сэрца, яна падаравала многія работы мужа і свае Францыі і свайму роднаму Зембіну. Так у 1985 годзе ў мястэчку была адкрыта карцінная галерэя, у якой выстаўлены многія рэпрадукцыі работ сусветна вядомых мастакоў розных часоў і народаў, стыляў і накірункаў, аўтарскія работы самой Надзеі Лежэ, многія работы беларускіх мастакоў. Памерла мастачка ў 1982 годзе, пакінуўшы самую добрую памяць у землякоў.



⑦

Ідуць гады, жыццё не стаіць на месцы, але нязменным для чалавека застаецца патрэбнасць знаходзіць і тварыць прыгожае. Людзі, апантаныя творчасцю, ёсць і сярод сённяшніх зембінцаў. Няма сумнення, што ў слаўным мястэчку ўжо нарадзіліся ці народзяцца неўзабаве людзі, якія гісторыю сваёй малой (а мо і вялікай) радзімы зробяць яшчэ больш славутай.

*І.Белы, М.Мацельскі*

⑤



⑥



# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-15 за 1996 - 2000 гг.)*

Меншыкаў у сваім лісце ад 18 лютага 1708 года Пятру І папярэджваў, што калі маскоўскі гаспадар пойдзе да Барысава з трыма палкамі, каб спыніўся значна недаходзячы да горада, бо каля яго ніякі правіянт знайсці немагчыма. Сам жа Меншыкаў, каб здабыць фураж, рабіў вылазкі ў 3 - 4 мілі (20 -30 кіламетраў) ад Барысава. У прыватнасці ў адну з такіх вылазак ён збіраўся 19 лютага 1708 года. На пачатку вясны таго ж года справа з фуражом стала яшчэ горш. Той жа Меншыкаў у лісце да Пятра І пісаў, што дзеля таго, каб хоць неяк пракарміць коняў, даводзіцца пад прымусам адбіраць для іх у сялян сечку і муку. Сялянскія падвор'і былі і так ужо даўно спустошаны, а самі сяляне галадалі. Каб знайсці хлебныя ямы, маскоўцы палілі вясковыя гаспадаркі і вешалі сялянаў.

На пачатку вясны 1708 года частка шведскага войска падышла да Бярэзіны і ўжо трэцяга сакавіка стаяла насупраць Барысава. Праз расійскіх шпіёнаў і ўсім сваім выглядам шведы хацелі прымусіць маскоўцаў паверыць у тое, што менавіта тут, каля Барысава, яны збіраюцца пераправіць праз Бярэзіну свае асноўныя сілы. Трэба прызнаць, што шведам гэта ўдалося дасягнуць. Маскоўцы грунтоўна аглядзелі ўсе магчымыя пераправы каля Барысава, умацавалі іх. Да Барысава былі кінуты іх асноўныя сілы. 16 траўня 1708 года Брус пісаў маскоўскаму гаспадару, што дзеля ўтрымання шведаў на Бярэзіне ля Барысава накіраваны трох - пяці фунтавыя гарматы. Да Бярэзіны набліжаліся і іншыя палкі. Так, Меншыкаў у сваім лісце ад 26 траўня 1708 года да Пятра І пісаў, што з Улы да Барысава накіраваны фельдмаршал - лейтэнант Гольц з дзвюма тысячамі жаўнераў. У лісце Меншыкава ад трэцяга чэрвеня ўказваецца, што выданы загад на тое, каб генерал Рэпін даслаў у Барысаў тысячу жаўнераў.

Вясенні разліў Бярэзіны і працяглае без ніякіх зрухаў супрацьстаянне па яе берагах далі надзею маскоўцам, што шведы тут будуць спынены. Час ад часу адбываліся перастрэлкі паміж бакамі праз Бярэзіну. Аднак яны ні да чаго не прыводзілі. Так, падчас адной з іх былі ўсяго толькі паранены тры казакі. У сярэдзіне траўня 1708 года каля Барысава невялікі казацкі атрад пераправіўся праз Бярэзіну і напаў на шведаў. У выніку 30 жаўнераў шведскага войска былі забіты, 5 узяты ў палон.

На паседжанні генеральнага савета расійскай арміі, якое адбывалася ў Чашніках 13 чэрвеня 1708 года, ужо было вядома, што шведы да Бярэзіны ідуць дзвюма калонамі. Адна - на Барысаў, другая - на Беразіно. Дзеля таго, каб можна было аператыўна рэагаваць на любыя дзеянні шведаў, пастановаю савета прадпісвалася ўсёй кавалерыі ісці да Бярэзіны, а пяхоце размясціцца ад Чарэі да Бабра, гэта значыць, паміж двума магчымымі месцамі пераправы шведаў. Аднак ужо 14 чэрвеня генеральны савет атрымаў ліст ад Меншыкава, што шведы пераправіліся ў трох месцах праз Бярэзіну ў наваколлях Беразіно, дзе было ўсяго 600 маскоўскіх жаўнераў і ідуць у накірунку Быхава. Там жа пераправіўся праз Бярэзіну і Карл XII. Такім чынам, маскоўцы аказаліся падманутымі, а іх вялікае войска пад Барысавам апынулася ў баку ад галоўных падзеяў. Асноўная частка войска Пятра І была вымушана пайсці з Барысава ўдагонку за шведамі.

Узяцце Барысава шведамі па меркаванню шэрагу гісторыкаў адбывалася наступным чынам. Трохтысячны шведскі атрад з той часткі войска, што стаяла насупраць горада, рушыў на поўнач ад Барысава і ў раёне Студзёнкі фарсіраваў Бярэзіну. Адсюль ён шпаркімі тэмпамі нанёс нечаканы ўдар па маскоўскаму войску, што засталося ў горадзе. Маскоўскія жаўнеры былі вымушаны пакінуць Барысаў. Кіраваў шведскім войскам пад Барысавам генерал Разэнбаўм.

Да нас дайшла пэўная колькасць слядоў прысутнасці шведаў у нашым краі. Так, адна з вуліцаў Барысава яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя звалася Шведскай. Гэту назву яна атрымала за тое, што на ёй падчас вайны пачатку XVIII стагоддзя стаяў абоз шведскага войска. Паданні аб шведах доўгі час перадаваліся з пакаленняў у пакаленні шмат у якіх тутэйшых мясцовасцях. Частка паданняў не адпавядаюць рэальным гістарычным фактам, але асновай для іх, пэўна, былі гістарычныя падзеі, якія мелі месца, але потым пры пераказах набылі іншыя адценні. Так, яшчэ нядаўна жыхары Ухалоды маглі паказаць так званую "Каралеўскую грэблю", якую звязвалі са шведскай вайной і каралём Карлам XII.

У чэрвені 1709 года адбылася бітва пад Палтавай, у якой шведы былі разбіты. Карл XII ледзь змог уцячы жывым у Турцыю. Але на гэтым вайна са Швецыяй не скончылася. Далейшыя вайсковыя дзеянні наш край мінулі. Тым не менш атрады маскоўскіх войскаў яшчэ не раз праходзілі праз наш край. Так, на пачатку верасня 1709 года з поўдня на поўнач Барысаўшчыну прайшла дывізія генерала Рэпіна, якая складалася з васьмі палкоў. У Барысаве яны былі шостага верасня. Падчас пахода войскі мелі вялікія цяжкасці з ежай. Працяглы пастой у нашым краі маскоўскіх жаўнераў і далейшыя вайсковыя дзеянні вынішчылі нашу зямлю дашчэнту. Таму жаўнеры Рэпіна ўсюды па свайму шляху жалі жыты, чым і сілкаваліся.

Вялікае княства Літоўскае выйшла са шведскай вайны ў 1720 годзе, Масковія, дзе гэту вайну прынята называць Паўночнай, - на год пазней.

*(Працяг будзе)*
**М.Мацельскі**





*Ручнікі на месцы былой царквы каля Барысава*

# Сімволіка ручніка

Сярод ільняных вырабаў традыцыйна беларускага ткацтва варты ўвагі ручнік.

Цікаўнасць да гэтай рэчы абумоўлена не толькі прыгажосцю, яго эстэтычнай функцыяй упрыгожваць інтэр'ер хаты, але і яго роляй у беларускіх абрадах.

Шырока выкарыстоўваўся ручнік, напрыклад, у вясельных абрадах. Падрыхтаваныя ў якасці падарункаў ручнікі мелі прэстыжнае значэнне, паколькі з'яўляліся лепшым доказам здольнасці нявесты ткаць, а ў будучым апранаць сям'ю. Дарэнне ручнікоў заўсёды суправаджалася пэўнымі рытуаламі, песнямі. Але ручнікі дарылі не ўсім родзічам маладога (жаніха), а пераважна мужчынам: маладому, яго бацьку, свату і яго памочніку, дружыне маладога, іншым вясельным чынам.

Тыповым было ўжыванне ручніка ў якасці падножніка, на які станавіліся маладыя ў час вянчання. Адыходзячы ад аналоя, нявеста старалася цягнуць за сабой і ручнік. Гэта рабілася для таго, каб сяброўкі цягнуліся за ёю - выходзілі замуж.

Ручніком карысталіся і ў іншыя моманты вясельнага абраду: у час звязвання нявесты і жаніха пры вянчанні, у час пераезду да жаніха, што сімвалізавала адзінства маладых.

Ужываўся ручнік і для абгортвання рук. Маладых урачыста абводзілі ручніком вакол стала, заводзілі за стол. Такім жа чынам маладога і нявесту ўводзілі ў царкву.

Кульмінацыйны момант вяселля - прыезд павянчаных да хаты маладога - суправаджаўся асаблівай выстаўкай пасагу нявесты: ручнікоў, абрусаў, посцілак - стваранўся яркі святочны інтэр'ер. Прысутныя прыдзірліва ацэньвалі колькасць і якасць рэчаў, багацце ўзораў.

Ручнік шырока ўжываўся ў жалобнай абраднасці.

Адзін з такіх старажытных звычаяў - вывешванне ручнікоў з вокнаў. На Віцебшчыне, напрыклад, калі цела нябожчыка ўжо ляжала ў труне на кутнім месцы, за акно, пры якім стаяла труна, вывешваўся ручнік. І ў знак жалобы, і для "патрэб" нябожчыка, які, паводле павер'я, можа вярнуцца ў пакінутую хату.

У Гомельскай вобласці на акно ставілі шклянку з чыстай вадой і вешалі ручнік, каб душа нябожчыка мела магчымасць памыцца і чыстай з'явіцца на той свет.

Ручнікамі здаўна на Палессі абвязваюцца надмагільныя крыжы, бо гэта з'яўляецца найбольш выразным, даступным і зручным сродкам аздаблення магілы.

Ручнік ужываўся пры ўшанаванні духаў продкаў на "Дзяды", прычым у рознай мясцовасці пасвойму. На Магілёўшчыне, напрыклад, пасля вячэры на канец стала клалі ручнік, кавалак мыла, ставілі кубак з вадой. На стале пакідалі поўную чарку і вячэру. Людзі верылі, што Дзяды прыйдуць уначы на вячэру і будуць мыць рукі. Рытуалы з ручніком адрозніваюцца паводле формы, але іх аб'ядноўвала сутнасць самага абраду - ушанаванне продкаў. Ручнік, такім чынам, паўстае перад намі як сімвалічны пасрэднік паміж светам жывым і светам нябачным.

**Паводле В.Фадзеевай**





## *Наша гасцёўня*

*Сёння ў нашай гасцёўні юныя таленты з Зембіна. Гэтыя вершы - іх першая спроба пяра. Яны прывабліваюць, перш за ўсё, дзіцячай непасрэднасцю, абвостраным бачаннем свету. Думаецца, што ў іх усё наперадзе. І хочацца верыць, што наступныя пакаленні зембінцаў будуць імі ганарыцца, як Язэпам Шпэтам і Ізі Харыкам.*

### Зімовая казка

Прыйшла прыгожая зіма,
Навокал гурбы намяла.
Адчыніш дзверы, выйдзеш у двор-
Які прыгожы снежны ўбор!
Ад ветру дрэўца скалыхнецца,
Ад цяжару галінка атрасецца.
Так ціха - кожны гук чуваць здаля,
Ледзь рыпнуцца вясніцы ці крыкне дзе дзятва.
Заззяе сонейка - ўсё засмяецца,
А снег рыпіць, і мне здаецца,
Што казка ў госці к нам прыйшла.

*Тацццяна Клімковіч (5 клас)*

### Бабуля

Ты мая любімая,
Сэрцу майму мілая.
Ты мне пажаданая,
Ты мая каханая.
Казку ты мне прачытаеш,
Калыханку праспяваеш...
Цябе моцна я люблю,
Цябе страціць не хачу.

### Бярозы

Стаіць адна бяроза,
А побач - яшчэ дзве.
Стаяць, галінкамі шапочуць.
Як добра слухаць спеў бяроз,
Іх задуменную размову.
Будзе ісці стомлены вандраўнік,
Яны яго запросяць:
"Прыляж, прыляж каля нас!"
Той падарожнік ляжа, адпачне
І зноў адправіцца ў дарогу.

*Каця Шыдлоўская (7 клас)*

### Вясна

Вось на полейку
Цячэ крышталь - вадзіца.
І ў яе глядзіцца
Шаўкавістая травіца.
Вербы кучаравыя
Над ракой стаяць.
Хмаркі сінявокія
Над зямлёй ляцяць.
І на дрэвах
Голыя галінкі,
Як асірацелыя дзяўчынкі.
А маладзенькія сінічкі
Сядзяць, як дружныя сястрычкі.

*Людміла Кухта (5 клас)*


воз. Глубля

# Што ні возера - то дзіва!

Лета - час вандровак. Менавіта ў гэты час маюцца найлепшыя магчымасці для актыўнага адпачынку на прыродзе ўдалечыні ад гарадской мітусні. Адным з найбольш прывабных і цікавых месцаў на Беларусі, дзе прырода, здаецца, на невялікай плошчы ўтварыла столькі ўсяго цікавага, з'яўляюцца Блакітныя азёры.

Ландшафтны заказнік Блакітныя азёры знаходзіцца на поўначы Мінскай вобласці паміж Свір'ю і Лынтупамі. Размешчаны ён удалечыні ад буйных гарадоў, у баку ад асноўных шляхоў. Гэта робіць туйшыя мясціны адносна бязлюднымі. Каб трапіць туды з Барысава і аглядзець заказнік, прыдатным з'яўляецца толькі адзін транспарт - ровар. Асноўныя шляхі зносінаў у ім - сцежкі. З Барысава да заказніка каля 200 кіламетраў. Гэты шлях можна скараціць, калі даехаць на электрычцы да Маладзечна. Адтуль мэтазгодна ехаць не самым найкарацейшым шляхам ля возера Свір, а вакол возера Нарач, якое само па сабе вельмі цікавае. У гэтым выпадку шлях складзе каля 130 кіламетраў.

Што ж незвычайнага ёсць на Блакітных азёрах і што прыцягвае да іх кожнага, хто хаця б раз пабываў на іх? Уявіце сабе кіламетры суцэльнага лесу, у якім раскіданы больш за дзесятак азёр. Вакол іх - узгоркі са стромкімі ўздымамі, дзе перапады вышынь дасягаюць 40 метраў. Усё гэта надае адчуванне таго, што вы знаходзіцеся ў прадгор'і. Але гэта яшчэ не ўсё. Кожнае возера ўнікальна само па сабе. Возера Глубля мае выразны блакітны колер. Возера Глубелька, што знаходзіцца побач, адметна маляўнічым астраўком і сваёй прыгажосцю. Возера Імшарэц мае "мыльную" ваду, Ячмянёк - салёную. Ёсць тут і "Мёртвае" возера са стромкімі, залітымі да верху берагамі, са шматлікімі мёртвымі стваламі дрэў на дне і адсутнасцю раслiннасці. Цікава і самае вялікае возера групы - Балдук. Дарэчы, яно мае глыбіню 39,7 метраў і з'яўляецца трэцім па глыбіні на Беларусі.

На Блакітных азёрах маюцца выдатныя месцы для турысцкіх стаянак. Калі вас цікавіць лепшае месца для купання, то спыняйцеся на возеры Балдук каля аднайменнага хутара. Калі для вас больш важна сама прырода і адчуванне еднасці з ёй, спыняйцеся паміж азёрамі Глубля і Глубелька. Дарэчы, тут маецца крыніца з добрай пітной вадой, што вельмі істотна. Акрамя таго, калі вы падымецеся на адзін з тамтэйшых узгоркаў, то з вышыні над вяршынямі дрэў убачыце цудоўны краявід з двума азёрамі, узгоркамі і навакольнымі лясамі.

Каб найлепш адчуць асаблівасць тамтэйшых азёр, безумоўна, на іх лепей ехаць летам. Аднак тых, хто жадае адпачыць на іх не так ужо і мала. Да таго ж туды ў сезон адпачынку пастаянна прыязджаюць турыстычныя групы з Нарачы. Таму калі вы маеце жаданне пабыць пэўны час там з колам сяброў сам-насам з "дзікай" прыродай, раім вам гэта рабіць у траўні. Дарэчы, вясной на Блакітных азёрах можна ўбачыць тое, што летам немагчыма сустрэць. У прыватнасці, крыніцу, якая ў літаральным сэнсе б'е з-пад зямлі.

Не пашкадуйце частку свайго адпачынку для вандроўкі ў гэты адметны куток Беларусі. Шмат для каго знаёмства з Блакітнымі азёрамі можа стаць сапраўдным адкрыццём.

*А.Гурскі*

Тамтэйшыя далягляды




р.Страча

воз. Балдук



# Прыродная лякарня

Лета прыносіць шмат падарункаў. Найбольш каштоўныя з іх - лекавыя расліны, якімі шчодра адорвае нас наша Барысаўшчына. Не згубіце моманту - на кожную расліну свой час.

У ліпені - жніўні збіраюць васілёк сіні і святаяннік дзіркаваты (звербой). Гэтыя расліны вядомы амаль усім.

Кветкі васілька маюць мачагоннае, жаўцягоннае, процізапаленчае і абязбольваючае дзеянне. Адвар ці настой васілька прымаюць пры хваробах сэрца, галаўнога болю, страўнікавых, жаночых хваробах. Настой робяць так: дзве чайныя лыжкі сухіх кветачак заварваюць у шклянцы кіпеню, настойваюць дзве гадзіны і п'юць па адной сталовай лыжцы 3-4 разы на дзень. Добра дапамагаюць ванны з адварам васілька пры рэўматызме, дыятэзе і экзэмах.

У народзе кажуць, што святаяннік дзіркаваты можа пазбавіць ад 99 хвароб. Звычайна ў кіпень кідаюць мелка парэзаную траву, закрываюць і даюць настаяцца. П'юць пры страўнікавых хваробах, захворваннях печані, жаўтусе, пры нервовых хваробах, галаўных болях (пры паніжаным ціску), малакроўі, гемароі, кашлі, для апетыту, пры рэўматызме, хваробах дзёснаў. Трава святаянніка мае вяжучае, дэзінфіцыруючае, процізапаленчае, кровасцінаючае дзеянне. Аднак з асцярогай трэба выкарыстоўваць гэтую расліну людзям з павышаным ціскам.

Памятайце, паважаныя чытачы, што збіраць лекавыя травы можна толькі за горадам, пры сухім надвор'і і добрым настроі. Здароўя вам!

*І.Магуш*

# Аб правах спажыўцоў

*Кожны з нас наведвае крамы, іншыя гандлёвыя кропкі, робіць розныя пакупкі, якія, на жаль, не заўсёды нас задавальняюць. Што рабіць, калі гэта здарылася і што гаворыць закон аб правах пакупнікоў?*

*У адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў" і Асноўнымі правіламі вядзення рознічнага гандлю і гандлёва-вытворчай дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь*

1. Прадавец абавязаны:

1.1. Рэалізоўваць дабраякасныя тавары.

1.2. Кампенсаваць пакупніку ў поўным аб'ёме ўрон, прычынены няякасным таварам.

1.3. Даць пакупніку інфармацыю: на шыльдзе аб назве, прыналежнасці гандлёвага прадпрыемства; яго рэжыме работы; тэлефонах і адрасах органа ўпраўлення, які выдаў ліцэнзію на гандаль; вышэйстаячага органа ўпраўлення або ўласніка; Службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта; аб гарантыйных тэрмінах і тэрмінах годнасці; цане тавараў праз цэннікі; маркіроўку; тэхнічную дакументацыю, якая прыкладаецца да тавараў.

1.4. Выдаць пакупніку касавы (таварны) чэк ці іншы дакумент устаноўленай формы, які пацвярджае пакупку тавара ў даным гандлёвым прадпрыемстве.

1.5. Ажыццяўляць разлік за тавары як наяўнымі грашыма, так і шляхам безнаяўнага пералічэння сродкаў у адпаведнасці з устаноўленым парадкам.

1.6. Стварыць умовы для прымеркі, праверкі працаздольнасці, камплектнасці, вагі і меры набываемых тавараў. Забяспечыць наяўнасць у гандлёвай зале кантрольных вагаў, кантрольнага метра.

1.7. Абслугоўваць пакупнікоў ва ўстаноўлены час працы прадпрыемства.

1.8. Прадаставіць пакупніку па яго прапанове кнігу водгукаў і прапаноў.

1.9. Абслугоўваць без чаргі грамадзян, якія маюць льготныя катэгорыі, устаноўленыя ў адпаведнасці з заканадаўствам.

2. Спажывец, якому прададзены недабраякасны тавар, можа на працягу 12 месяцаў з дня продажу, а па таварах, на якія ўстаноўлены гарантыйныя тэрміны прыгоднасці - на працягу гэтых тэрмінаў патрабаваць па свайму выбару:

- або бязвыплатнага ўстаранення недахопаў тавар;
- або пакрыцця сваіх расходаў па ўстараненню недахопаў;
- або суразмернага памяншэння пакупной цаны;
- або заменай аналагічным таварам належнай якасці;
- або звароту грошай.

Патрабаванні пакупніка разглядаюцца пры прад'яўленні ім таварнага (касавага) чэка, а па таварах, на якія ўстаноўлены гарантыйныя тэрміны, - належна афармленага тэхнічнага пашпарта або іншага дакумента, што замяняе яго. Разлікі са спажыўцом робяцца з улікам змянення цэн.

3. Спажывец мае права на абмен дабраякасных нехарчовых тавараў (за выключэннем тавараў, якія не падлягаюць абмену, пералік якіх зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь) на працягу 14 дзён, не лічачы дня продажу; калі тавар не падышоў па форме, габарытах, фасону, расфарбоўцы, памеру або па іншых прычынах не можа быць выкарыстаны спажыўцом.

Абмен дабраякаснага тавару робіцца, калі ён не быў ва ўжытку, захаваны яго таварны выгляд, спажывецкія ўласцівасці, пломбы, фабрычныя ярлыкі, а таксама таварны або касавы чэк, выдадзены спажыўцу прадаўцом разам з прададзеным таварам.

У выпадку, калі аналагічны тавар адсутнічае ў продажы ў момант звароту пакупніка ў гандлёвае прадпрыемства, пакупнік мае права скасаваць дагавор і запатрабаваць вяртання выплачанай за тавар сумы, а прадавец абязаны прыняць тавар і вярнуць выплачаную суму.

4. Дзяржава забяспечвае пакупнікам абарону іх законных інтарэсаў праз спецыяльна ўпаўнаважаныя органы, а таксама суд.

У выпадку канфлікту Вы можаце звярнуцца:

*Орган ўпраўлення гандлю (г.Барысаў, вул.Чапаева,6) Тэл. 3-44-52; 3-46-63*

*Орган ўпраўлення, які выдаў ліцэнзію (г.Барысаў, вул. Чапаева,6) Тэл. 3-64-34*

*Служба кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта (Мінск, пр. Ф.Скарыны,33) Тэл. 36-64-03; 31-34-54*

# Парады ад Наталлі

*Паважаныя гаспадыні! У сувязі з тым, што даволі многа часу вы знаходзіцеся на дачах, садовых участках, прапаную вам некалькі старых, "бабуліных" спосабаў захавання прадуктаў свежымі без халадзільніка.*

Для таго, каб у гарачыя дні **малако** не скісала, трэба шкляны посуд з малаком паставіць у шырокую міску з вадою, накрыць посуд чыстай сурвэткай, краі каторай апусціць у ваду. Атрымаецца пастаяннае выпарэнне вады з сурвэткі. Гэта будзе падтрымліваць у посудзе дастаткова нізкую тэмпературу, каб малако не скісла і было свежым нават у спякотны дзень.

**Масла** ў гарачае надвор'е не растане, калі маслёнку загарнуць у сурвэтку, памочаную ў салёнай вадзе.

Каб захаваць **сыр** ад высыхання, трэба ў талерку побач з сырам пакласці кавалак цукру і накрыць другой талеркай. Цэлы тыдзень сыр будзе свежым.

Каб **хлеб** доўга не чарсцвеў, яго трэба захоўваць у закрытым шкляным, фарфоравым ці эмаліраваным посудзе. На дно посуду рэкамендуецца пакласці кавалачак сырой бульбы ці крышку солі.

Каб у **муцэ** і **рысе** не заводзіліся чарвякі і даўганосікі, у Паўднёвым Кітаі прымяняюць вельмі просты сродак. У кожны куль мукі ці рысу кладуць 2-3 галоўкі раздзеленага на долькі часнаку. Пры гэтым уважліва сочаць, каб верхнія покрывы долек не былі пашкоджаны, інакш часнок згніе.

**Яйкі** з трэснутым шкарлупіннем не выцякаюць, калі іх варыць у салёнай вадзе.

Пры варцы **свежай гародніны і маладой бульбы** заўсёды апускайце іх у халодную ваду.

**Зеляніна і гародніна** захоўваюць свой колер, калі ў ваду, у якой яны варацца, пакласці крышку харчовай соды (прыкладна 1/2 чайнай лыжкі на 1 кг гародніны).

**Бульба ў малацэ**

Пачышчаную і памытую бульбу (можна парэзаць кубікамі) паварыць 10 хвілін у вадзе, пасля чаго зліць ваду, бульбу заліць малаком і варыць яшчэ 20-30 хвілін. Неабходна сачыць, каб бульба не падгарэла. У гатовую бульбу пакласці масла, пасыпаць мелка пакрышанай пятрушкай або кропам.

На 1 кг бульбы - 2 шклянкі малака і 2 сталовыя лыжкі масла.

**Гародніна ў малочным соусе**

У малочным соусе можа быць прыгатавана розная гародніна - бульба, морква, зялёны гарошак, стручкі фасолі і г.д. Можна прыгатаваць з аднаго ці некалькіх відаў гародніны. У апошнім выпадку гародніна змешваецца.

Гародніну трэба пачысціць, памыць, парэзаць кубікамі, долькамі ці скібкамі, зварыць у падсоленай вадзе, адкінуць на сіта. Затым гародніну перакладаюць у каструлю, заліваюць гарачым малочным соусам і перамешваюць. Малочны соус для заліўкі гародніны па гушчыні павінен нагадваць смятану. Гатуецца соус наступным чынам: сталовую лыжку мукі падсмажваюць на масле, разбаўляюць гарачым малаком, дабаўляюць соль і вараць 10-15 хвілін. На 1 сталовую лыжку мукі 1,5 шклянкі малака і 25 грам масла (на 1 кг гародніны).

